ГРОДНА
№10 (562),
16 мая 2021

# СЛОВА ЖЫЦЦЯ

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## Патрабуем Святога Духа




*Момант Спаслання Святога Духа лічыцца пачаткам Касцёла, днём яго нараджэння.*

на старонцы 2

## Касцёл у Казловічах: да 100-годдзя вяртання святыні



*Казловіцкі парафіяльны касцёл, як і многія святыні Беларусі, мае нялёгкую гісторыю.*

на старонцы 4

## Цярністы ці просты, або Пра доўгі шлях да святарства



*Кс. Ян Рэйшаль: ад паштальёна да святара.*

на старонцы 6

# ТРОЙЧЫ ЦУДОЎНА!




*Ахінём малітоўнай апекай ардынарыя і нашу дыяцэзію*

**Сёлета святкуем тры важныя юбілеі: 45-годдзе святарскіх пасвячэнняў біскупа Гродзенскага Аляксандра Кашкевіча, 30-годдзе яго біскупскага служэння і 30-годдзе існавання дыяцэзіі. Пра важныя даты расказвае віноўнік урачыстасцей.**

**У маі месяцы Яго Эксцэленцыя біскуп Аляксандр Кашкевіч адзначае 45-гадовы юбілей святарства. І хоць наш будучы ардынарый ішоў шляхам наследавання Хрысту з малых гадоў, прыняцце рашэння аб службе на ніве Пана было такім жа разважлівым, як і цалкам яго місія ў Касцёле.**

на старонцы 3

## ПАСТАР ВЯЧАСЛАЎ ГАНЧАРЭНКА: “НЕ ТРЭБА АСАБЛІВА ПЕРАЖЫВАЦЬ ЗА БУДАЎНІЦТВА, ВАЖНА ЎБАЧЫЦЬ ЖНІВО”






*У лютым 2021 года вернікі царквы “Новае Жыццё” былі пазбаўлены будынка, дзе збіраліся на набажэнствы*

на старонцы 5

СЛОВА РЭДАКТАРА

## Дарагія Чытачы!



Месяц май унікальны ва ўсіх адносінах. Кожны можа знайсці ў гэты час нагоду для радасці. Хтосьці заканчвае школу альбо выбірае для сябе прафесію, пачынаючы дарослае жыццё, іншыя ж адзначаюць важныя гадавіны ці юбілеі.

Для пастыра нашай дыяцэзіі кс. біскупа Аляксандра Кашкевіча май таксама поўніцца падзеямі. У пачатку месяца ён адзначаў свае імяніны, а ў канцы – будзе перажываць 30-годдзе біскупскай сакры. І гэта яшчэ не ўсё! Таму што ў маі ён таксама адзначыць 45-ую гадавіну святарскага пасвячэння.

Для ўсіх, хто складае Гродзенскі Касцёл, гэта яшчэ адна нагода падзякаваць Богу за асобу і апостальскае служэнне Ксяндза Біскупа, які з моманту стварэння дыяцэзіі з'яўляецца яе добрым бацькам і правадніком. Дзякуючы словам, дзеянням і рашэнням нашага пастыра, мы змаглі лепш зразумець, што такое вера і прывязанасць да Касцёла, што такое любоў да Бога і да іншых.

Будзем дзякаваць Усемагутнаму за тое, што Ён любіць нас, што паказвае сваю любоў у людзях і праз людзей. Будзем дзякаваць Маці Міласэрнасці за гэты супольны шлях і глядзець у будучыню з надзеяй!

ks. Jerzy Martinowicz

Каляндар

**22 мая**

**Успамін св. Рыты Кашыйскай.**

*Св. Рыта жыла ў Умбрыі ў XV стагоддзі. Спачатку, выйшаўшы замуж за імпульсіўнага мужчыну, яна цярпліва пераносіла яго злосць і з'яднала яго з Богам. Потым, пасля смерці мужа і сыноў, уступіла ў манастыр аўгустынак, дзе паказала выдатны прыклад цярплівасці і пакаяння. У дзень яе ўспаміну блаславаляюць ружы – у памяць аб падзеі, калі яны заквітнелі зімой. З'яўляецца заступніцай цяжкіх і безнадзейных спраў.*

**23 мая**

**Урачыстасць Спаслання Святога Духа.**

*У гэты дзень прыпадае 30-ая гадавіна біскупскіх пасвячэнняў пастыра Гродзенскай дыяцэзіі. Памолімся ў інтэнцыі кс. біскупа Аляксандра Кашкевіча і яго плённай апостальскай паслугі ў дыяцэзіі.*

**24 мая**

**Свята Найсвяцейшай Панны Марыі, Маці Касцёла.**

*Свята Марыі, Маці Касцёла, адзначаецца ў панядзелак пасля Ўрачыстасці Спаслання Святога Духа, якая стала пачаткам дзейнасці Касцёла. На момант Спаслання Святога Духа ў Вячэрніку прысутнічалі ўсе апосталы, якія "аднадушна трывалі ў малітве разам з жанчынамі і Марыяй, Маці Езуса, і з братамі Ягонымі" (Дз 1, 14).*

**26 мая**

**Успамін св. Філіпа Нэры, прэзбітэра.**

*Св. Філіп нарадзіўся ў Фларэнцыі ў 1515 годзе. Ён паехаў у Рым і вёў набожнае жыццё, аддане моладзі, хворым і бедным; для апекі над імі стварыў таварыства. Пасвечаны ў святары, у 1551 годзе заснаваў араторый, члены якога прысвячалі сябе набожным чытанням, спеву і дабрачынным справам. Св. Філіп вылучаўся любоўю да бліжняга, евангельскай прастатой і радасным служэннем Богу. Памёр у 1595 годзе.*

**27 мая**

**Свята Езуса Хрыста, Найвышэйшага і Вечнага Святара.**

*Гэтае свята павінна стаць натхненнем для напружанай малітвы ўсяго Касцёла за яго пастыраў. Акрамя таго, мусіць прыводзіць у прыклад Хрыста-Святара тым, хто ўдзельнічае ў Яго служэнні святарстве. А ўсім вернікам нагадаць пра ўдзел у святарстве паўсюдным.*

# ПАТРАБУЕМ СВЯТОГА ДУХА

працяг са с. 1

**Велікодны перыяд, калі мы мелі магчымасць адначасова ўзнавіць у сабе таямніцу веры ў Таго, хто ўваскрос, узышоў на Неба, сеў праваруч Айца і вернецца судзіць жывых і памерлых, заканчваецца ўрачыстасцю Спаслання Святога Духа на апосталаў, сабраных у вячэрніку.**

**Гэты момант лічыцца пачаткам Касцёла, днём яго нараджэння. Гэта быў хрост Касцёла, які нарадзіўся, каб абвяшчаць усім Евангелле.**

*Кс. Юрый Марціновіч*


wikipedia.org

### СУЦЯШАЕ І АЗДАРАЎЛЯЕ

Святы Дух атаясамліваецца з голубам, які з'явіўся падчас хрышчэння Езуса ў водах Іардана. Так Ён прадстаўляецца на абразах у нашых святынях. Святы Дух з'яўляецца самай загадкавай Асобай Святой Тройцы, але Ён Бог і нястомна суправаджае нас на кожным кроку жыцця.

Чалавек у сваім жыцці ўвесь час нечага прагне. Прагне многіх рэчаў, патрэбных для паўсядзённага існавання, прагне здароўя, поспеху, Божага блаславлення, але перш за ўсё – любові. Калі гэтыя жаданні не могуць быць рэалізаваны па розных прычынах, тады з'яўляецца сум. Тым часам прышэсце Святога Духа задавальняе ўсе чалавечыя жаданні і прыносіць яму радасць.

З людскога досведу ведаем, што кожнаму з нас патрэбна вада: чалавеку, жывёле і расліне. Добра разумеем, што калі яе не хапае, прыходзіць смерць, бо ўсё вяне і гублее жыццё. Калі ж вады дастаткова, усё жыве: ад чалавека да жывёл і буйна квітнеючай расліннасці. Сілай свайго Духа Бог ацаляе гэтай жыватворнай вадой з Нябёсаў нашы сэрцы і лечыць іх ад усяго, што знішчыў у нас грэх, прыносячы з сабою духоўную смерць.

### АДКРЫВАЕ НА БОГА

З назіранняў вядома, што мудрасць і глупства пастаянна суправаджаюць чалавека. Дзіця набывае мудрасць з узростам, а, атрымліваючы веды і навучаючыся, робіць гэта для таго, каб лепш спраўляцца ў жыцці. Мы таксама ведаем, што адсутнасць дакладнага бачання навакольнага свету выклікае ў людзей, якіх закранула такая слепата, вялікія цяжкасці і дыскамфорт пры нармальным функцыянаванні. Тым часам Святы Дух, дадзены людзям як мудрасць, паляпшае наша бачанне Божых спраў.

Святы Дух патрэбны нам яшчэ для таго, каб маліцца ў еднасці з Марыяй і іншымі паслядоўнікамі Хрыста. Ён неабходны, каб смела вызнаваць сваю веру: "Езус наш Пан", бо, ахрышчаныя адным Духам у сакраманце святога хросту, мы пакліканы сведчыць іншым пра Езуса Хрыста.

Аднак, перш за ўсё, Святы Дух нам патрэбны, каб у сваім паўсядзённым жыцці, часта адзначаным цяжкасцямі і пакутамі, перажыць сустрэчу з уваскрослым Панам, які ўлівае спакой у чалавечае сэрца.

Творца пасылае нас у моцы Святога Духа, як калісьці паслаў сваіх апосталаў: "Як паслаў Мяне Айцец, так і я пасылаю вас" (Ян 20, 21). Давайце возьмем на гэты шлях моц Святога Духа, якога Бог хоча нам удзяліць. Прымем дадзеную моц, бо толькі так мы зможам пражыць сваё жыццё з надзеяй і дзяліцца ёю з іншымі людзьмі, бо "надзея не асароміць, таму што любоў Божая вылілася ў сэрцы нашыя праз Святога Духа, які дадзены нам" (Рым 5, 5).

**Урачыстасць Спаслання Святога Духа сёлета адзначаем у нядзелю 23 мая.**

# ТРОЙЧЫ ЦУДОЎНА!



працяг са с. 1

**Ангеліна Марцішэўская**

***Высяванне біскупа Аляксандра як святара адбывалася ў Літве, і з гэтым перыядам у яго звязаны замілавальныя ўспаміны.***

Мне вельмі пашанцавала нарадзіцца і вырасці ў веручай сям'і. І мае бацькі, і сваякі, і ўсе жыхары ваколіцы былі католікамі. У нашым доме практыкавалі штодзённую супольную малітву, у маі разам адгаворвалі альбо спявалі літанію да Маці Божай. Магу сказаць пра сябе, што я рос і выхоўваўся ў асяроддзі, прасякнутым верай і рэлігійнымі практыкамі. Гэты клімат простай, традыцыйнай народнай набожнасці ўспрымаўся як нешта натуральнае, і я нават не мог уявіць, што хтосьці можа жыць інакш.

Акрамя бацькоў, прыкладам веры для мяне быў пробашч роднай парафіі Эйшышкі, а таксама іншыя святары, якіх я ведаў. З удзячнасцю ў сэрцы ўзгадваю таксама семінарыста, які праходзіў практыку ў нашай парафіі, і свецкую жанчыну з Францішканскага ордэна свецкіх, што рыхтавала мяне разам з іншымі дзецьмі з парафіі да Першай св. Камуніі.

Вельмі люблю словы св. Яна Паўла ІІ пра тое, што пакліканне да святарства – гэта дар і таямніца. Напэўна, ніхто са святароў не змог бы адказаць на пытанне, чаму ён абраў менавіта такі жыццёвы шлях. Відаць, Бог любіць дзейнічаць стрымана і далікатна. Памятаю, што ў падлеткавым узросце, хоць і не быў міністрантам, мне падабалася назіраць за ксяндзом пробашчам: як ён адпраўляе св. Імшу, прапаведаваў, спавядаў, цэлебраваў іншыя набажэнствы і сакраманты. Менавіта так – павольна і незаўважна – ува мне нараджалася і з цягам часу мацнела жаданне служыць Богу. У 10-ым класе сярэдняй школы я ўжо быў упэўнены, што хачу стаць святаром. Але да святарства быў яшчэ доўгі шлях: спачатку трэба было прайсці асноўную вайсковую службу, потым крыху папрацаваць, і толькі пазней я змог паступіць у семінарыю ў Каўнасе, каб пасля заканчэння вучобы атрымаць святарскае пасвячэнне.



У Літве я выконваў святарскую паслугу на працягу 15-ці гадоў: спачатку 5 гадоў быў вікарыем у катэдральнай парафіі ў Панявежысе, а наступныя 10 гадоў – пробашчам у парафіі Святога Духа ў Вільні. Маю вельмі прыемныя ўспаміны пра час свайго служэння, бо штодзённыя кантакты з вернікамі і выкананне звычайных душпастырскіх абавязкаў у парафіі – цэлебрацыя Эўхарыстыі і іншых сакрамантаў, абвяшчэнне Божага слова, катэхізацыя, наведванне хворых – прыносілі мне шмат асабістага задавальнення.

Адным з самых прыгожых і самых кранальных успамінаў назаўсёды застанецца момант перадачы мне арыгінальнага цудадзейнага абраза Езуса Міласэрнага, намаляванага Яўгенам Казіміроўскім. У той час я ўжо быў пробашчам у Вільні. Аднойчы ўвечары сядзеў у канфесіянале, калі да мяне падышла с. Цэцылія, былая шматгадовая Генеральная маці Кангрэгацыі Сясцёр Маці Божай Міласэрнасці. Сястра таемна прывезла абраз з Новай Руды каля Гродна і пытала, куды аднесці згорнутае ў рулон палатно. Папрасіў яе пакінуць абраз побач з канфесіяналам, потым занёс яго ў закрыстыю і толькі пазней, калі святыня была зачынена, разгарнуў рулон і ўпершыню на ўласныя вочы ўбачыў выяву Езуса Міласэрнага, намаляваную Казіміроўскім паводле ўказанняў с. Фаўстыны. Пазней я змясціў абраз у адным з бакавых алтароў у касцёле Святога Духа, дзе ён знаходзіўся да 2005 года, калі быў перанесены ў дзеючы Санктуарый Божай Міласэрнасці ў Вільні.

Трэба сказаць, што было шмат розных падзей і душпастырскай працы, часам адчувалася эмацыянальная і фізічная стомленасць, але ў той жа час у сэрцы была вялікая радасць ад служэння Богу і людзям.

***Сёлетні май – месяц чарговага юбілею, калі біскуп Аляксандр святкуе 30-годдзе біскупскага служэння. Просты хлопчык, выхадзец з літоўскай зямлі, стаў апекуном беларускіх католікаў на ўзроўні іерархаў Касцёла. Адметна, што ў біскупа Аляксандра дагэтуль атрымліваецца спалучаць узнёсласць пасады са сціпласцю звычайнага верніка.***

Я нарадзіўся ў вёсцы Падгайдзе, якая належыць да парафіі Эйшышкі. Гэта ўсяго некалькі кіламетраў ад сучаснай мяжы з Беларуссю, частка роднай парафіі сёння знаходзіцца на беларускай зямлі. У часы майго дзяцінства і юнацтва мяжа паміж савецкімі рэспублікамі была чымсьці дастаткова ўмоўным, мела выключна адміністрацыйны характар. Па абодва бакі сённяшняй мяжы ў нас былі падобныя ўмовы і падобны досвед. Што датычыць рэлігійных традыцый, яны практычна аднолькавыя, бо фарміраваліся на працягу многіх стагоддзяў, калі і Гродзеншчына, і Віленшчына належалі да былой вялікай Віленскай архідыяцэзіі і шчодра чэрпалі з яе багатай духоўнай спадчыны. Улічваючы ўсё гэта, магу шчыра сказаць, што ніколі не адчуваў сябе замежнікам у Беларусі.

Да таго ж зараз маю нямала ўлюбёных месцаў на Гродзеншчыне. Больш за ўсё мне падабаецца быць на ўлонні прыроды: шпацыраваць па лесе, ля ракі ці возера, цешыцца спевам птушак і шумам ветру ў кронах дрэў, назіраць за раслінамі, збіраць грыбы, арэхі і ягады. Шкада, што ў мяне не заўсёды ёсць на гэта час, хаця вельмі стараюся знайсці яго для гэтых мэт.

Але ў той жа час прасцей разважаць падобным чынам з вышыні пражытых гадоў. Добра памятаю момант, калі мне абвясцілі, што Святы Айцец Ян Павел ІІ збіраецца прызначыць мяне біскупам новастворанай Гродзенскай дыяцэзіі. Трэба прызнаць, я прыняў гэтую навіну са страхам і няўпэўненасцю, ці спраўлюся з такой адказнай місіяй. У духу пакоры і паслухмянасці волі намесніка св. Пятра, я даў згоду, хаця добра ведаў, што будзе няпроста. Становішча Каталіцкага Касцёла ў Беларусі было значна больш складаным, чым у суседняй Літве: у Беларусі было менш святароў, менш дзеючых святынь, трыванне з Хрыстом і Касцёлам, а таксама выхоўванне дзяцей у веры патрабавала ад католікаў большай мужнасці і рашучасці. З іншага боку, набліжаліся вялікія змены, ініцыяваныя перабудовай, нараджалася надзея на паступовае адраджэнне рэлігійнага жыцця і нармалізацыю становішча Касцёла. Таму я вырашыў зрабіць усё магчымае, каб працэс адраджэння веры на Гродзеншчыне праходзіў як мага хутчэй і даў самы багаты плён.

На гэтым шляху мне вельмі дапамагала Марыя. Шанаванне Найсвяцейшай Маці і адданасць Ёй займаюць важнае месца ў маёй асабістай духоўнасці. Я, відома, узяў гэтую марыйную набожнасць са свайго роднага дома і з таго часу нястомна культывую ды паглыбляю яе ў сабе. У сваім жыцці шмат разоў адчуваў апеку Марыі і эфектыўнасць Яе заступніцтва перад Богам. Маю звычку даваряць Маці Божай у малітве ўсе складаныя справы, разнастайныя важныя рашэнні, якія мушу прыняць, розныя сітуацыі, у якіх не ўпэўнены, як паступіць, і скажу, што ніколі яшчэ не быў расчараваны. Кожны раз адчуваў, што Марыя са мной і што Яна просіць у Сына тыя ласкі, якія мне найбольш патрэбны ў дадзены момант.

***У 30-годдзе існавання дыяцэзіі біскуп Аляксандр ацэньвае яе развіццё, аддаючы ўсе заслугі кожнаму, хто ўтварае Касцёл на Гродзеншчыне.***

Найбольшай праблемай для новаўтворанай Гродзенскай дыяцэзіі быў востры недахоп святароў. Большасць з іх былі пажылымі, перагружанымі, хворымі іператомленымі. Гродзенская вышэйшая духоўная семінарыя, заснаваная ў 1990 годзе, яшчэ не магла даць выпускнікоў (першыя святары выйшлі з нашай семінарыі толькі ў 1995 годзе). Відавочна, што без святароў немагчыма было б ажывіць рэлігійнае жыццё. На шчасце, іншыя лакальныя Касцёлы, а таксама шматлікія ордэны і манаскія кангрэгацыі паспяшаліся нам на дапамогу, дзякуючы чаму за адносна кароткі час удалося забяспечыць душпастырскую апеку ў большасці парафіяльных супольнасцей.

Іншым важным і складаным выклікам было вяртанне і аднаўленне многіх святынь, якія раней былі адабраны ў вернікаў і прызначаны для свецкага выкарыстання. Тут я хацеў бы падзякаваць усім нашым дабрачынцам і ахвярадаўцам, а таксама вернікам, якія часта ўласнымі намаганнямі з вялікай ахвярнасцю і энтузіязмам адбудоўвалі спустошаныя касцёлы і капліцы, вяртаючы ім годны выгляд. Апрача аднаўлення сакральных будынкаў, надзвычай важна было стварыць парафіі і пабудаваць святыні там, дзе іх раней не было.

Акрамя таго, неабходна было арганізаваць усе дыяцэзіяльныя ўстановы і структуры, такія як курыя, катэхетычныя курсы, касцёльны суд, Карытас, выдавецтва, сямейныя кансультацыі і г. д. Сярод найбольш важных дасягненняў – удзел вялікай колькасці свецкіх вернікаў у душпастырстве і арганізацыі сістэматычнай катэхізацыі і іншых адукацыйных праектаў для дзяцей і моладзі.

Думаю, дзякуючы вышэйзгаданым дасягненням, рэлігійная сітуацыя кожнага г. зв. звычайнага католіка на Гродзеншчыне сёння непараўнальна лепшая, чым 30 гадоў таму.

Гродзенскі Касцёл, несумненна, мае своеасаблівы, непаўторны характар. Гэта абумоўлена многімі гістарычнымі і культурнымі фактарамі. На маю думку, адным з найвялікшых яго багаццяў з'яўляецца велізарны духоўны патэнцыял, які мы атрымалі ў спадчыну ад нашых продкаў – бацькоў і дзядоў, што ў вельмі цяжкія часы здолелі захаваць скарб веры і перадаць яго чарговым пакаленням. Я часта кажу, што Касцёл на Гродзеншчыне не нарадзіўся ў вакууме і не паўстаў з нічога ў момант стварэння дыяцэзіі ў 1991 годзе. Мы будуем наш Гродзенскі Касцёл на грунтоўным, трывалым падмурку веры папярэдніх пакаленняў. Тут, на Гродзеншчыне, вера захавалася ў сэрцах вернікаў, часта выхоўвалася ў хатнім зацішку, у малітвах, прамаўляемых у коле сям'і, у перапісваемых уручную малітоўніках і катэхізісах, у перадаваемых бабулямі ўнукам праўдах веры і біблейскіх гісторыях. Гэта вялікі і цудоўны скарб, пра які нам нельга забывацца і які не можам змарнаваць.

Дарэчы, я хацеў бы звярнуцца да асоб старэйшага і сярэдняга пакалення з такой просьбай: расказвайце сваім дзецям і ўнукам пра гады ўласнай маладосці, пра перажыты досвед і выпрабаванні веры, пра тое, як і дзякуючы каму вы пазналі Хрыста. Няхай гэтыя сямейныя гісторыі будуць своеасаблівай катэхезай, няхай маладое пакаленне даведаецца пра, магчыма, невядомыя факты з жыцця бацькоў і дзядоў, няхай зразумее, якім вялікім скарбам з'яўляецца хрысціянская вера, атрыманая ў спадчыну ад папярэдніх пакаленняў. Я перакананы, што такія размовы яшчэ больш мабілізуюць сучасную моладзь жыць верай кожны дзень і смела сведчыць пра Хрыста.

АКТУАЛЬНА

**Ватыканскае радыё**

## Інтэнцыя Папы – маліцца за людзей, адказных за фінансы

Папа Францішак прысвяціў, людзям, адказным за фінансы, малітоўную інтэнцыю на май.

"У той час, як рэальная эканоміка – тая, якая стварае працоўныя месцы, – перажывае крызіс, бо вельмі шмат людзей не маюць працы, фінансавыя рынкі яшчэ ніколі не былі настолькі гіпертрафіраванымі, як цяпер. Наколькі далёкі свет фінансаў ад жыцця большасці людзей!", – заўважыў Пантыфік.

Францішак падкрэсліў, што "калі фінансы не рэгуляваць, яны становяцца чыстай спекуляцыяй, натхнёнай манетарнай палітыкай", а гэта непрымальна і небяспечна.

## Святы Айцец прызначыў Генеральнага рэвізора

Папа прызначыў Алесандра Касініса Рыгіні Генеральным рэвізорам, упаўнаважаным праводзіць аўдыт усіх устаноў Святога Пасаду і Дзяржавы Ватыкан. З 2017 года ён быў на пасадзе ў якасці выконваючага абавязкі.

Акрамя правядзення аўтаномнага і незалежнага аўдыту ўсіх суб'ектаў Святога Пасаду і Ватыкана, Упраўленне Генеральнага рэвізора выступае ў якасці антыкарупцыйнага органа, праводзіць праверкі канкрэтных сітуацый, звязаных з анамаліямі выкарыстання або размеркавання фінансавых ці матэрыяльных рэсурсаў, парушэннямі пры заключэнні кантрактаў або пры здзяйсненні здзелак і распараджэнняў, у сувязі з актамі карупцыі або махлярства.

## Пантыфік выдзяляе грошы на вакцынацыю ў бедных краінах

Папа і Апостальская элемазінарыя клапоцяцца не толькі пра тых, хто знаходзіцца ў Рыме, але і пра людзей у бедных краінах свету, якія пацярпелі ад розназа роду крызісаў, з мэтай забяспечыць ім доступ да вакцыны. Менавіта для гэтага нарадзілася ініцыятыва "Vaccino sospeso" ("Адкладзеная вакцына") і спецыяльны фонд пры ёй.

У рамках ініцыятывы "Vaccino sospeso" на рахунак Святога Айца паступаюць ахвяраванні ад 5-10 да некалькіх тысяч еўра. Ужо сабрана каля 200 тысяч еўра. Палова гэтай сумы была адпраўлена ў Сірыю. Плануецца, што іншая частка грошай будзе паступова пералічвацца ў іншыя краіны, дзе існуюць складанасці з вакцынацыяй.

## Малітоўныя інтэнцыі на май

### паўсюдная

Молімся, каб адказныя за фінансы супрацоўнічалі з урадамі для рэгулявання фінансавай сферы і абароны грамадзян ад пагроз.

### дыяцэзіяльная

Молімся, каб Бог блаславіў біскупаў, святароў, а таксама кансэкраваных асоб нашай дыяцэзіі.

# ЮБІЛЕЙ 80-ГОДДЗЯ АДЗНАЧЫЎ У ЖУПРАНАХ КС. ЮЗАФ ЗАНЕЎСКІ SDB




**Урачыстая св. Імша падзякі за 80 гадоў жыцця салезіяніна кс. Юзафа Занеўскага адбылася ў парафіяльным касцёле свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Жупранах (дэканат Ашмяны).**

*Кс. Юрый Марціновіч*

Эўхарыстыю, у якой прынялі ўдзел біскупы, святары, манаскія сёстры і шматлікія вернікі, узначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч. Іерарх, дзякуючы кс. Занеўскаму за шматгадовае ахвярнае святарскае служэнне ў дыяцэзіі, узвёў яго ў годнасць ганаровага каноніка Катэдральнага капітула Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Казіміра, карлевіча.

Кс. Юзаф Занеўскі нарадзіўся ў в. Заневічы каля Гродна. У вялікай сям'і, дзе было пяць сыноў і тры дачкі, будучы святар быў малодшым. Прэзбітэрскае пасвячэнне атрымаў таемна ў 1978 годзе ў Польшчы. Быў першым салезіянінам, які прыехаў у Беларусь, каб аднаўляць веру і несці Божае слова ў краіну, змучаную атэізмам.

Служыў у Гродзенскай дыяцэзіі ў Гродне, Гервятах і Жупранах, а ў 1991 годзе па запрашэнні арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча пераехаў у Расію, дзе больш за 25 гадоў быў пробашчам маскоўскай парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі. Таму некаторыя называюць яго "апосталам Масквы".

## Паўсюдны Касцёл

**ФІЛІПІНЫ.** Пачаўся працэс беатыфікацыі а. Роэля Галарда. 21 год таму манаха – тагачаснага дырэктара кіруемай кларэтынцамі школы – выкралі разам з настаўнікамі і звыш 50-цю вучнямі, катавалі і нарэшце забілі тэрарысты з групы "Абу Саяф", якая змагалася за незалежную мусульманскую дзяржаву на поўдні Філіпін. Манах загінуў у выніку перакрыжаванага агню паміж групай "Абу Саяф" і сіламі бяспекі, якія спрабавалі ратаваць выкрадзеных. Разам з айцом загінулі таксама трое настаўнікаў і пяцёра дзяцей. Дыяцэзіяльны этап працэсу беатыфікацыі стартаваў 3 мая ў парафіяльным касцёле ў Тумахубонгу. Мясцовы ардынарый біскуп Лео Далмао падчас св. Імшы сказаў, што "мучаніцтва – гэта дар, дадзены тым, хто варты гэтага ў вачах Бога".

**В'ЕТНАМ.** "Карытас" В'етнама запусціў праграму дапамогі, у рамках якой дастavіць у суседнюю Камбоджу 4 мільёны ахоўных масак. У краіне рэзка павялічылася колькасць людзей, заражаных каранавірусам. За апошнія дні там зарэгістравана 10 тысяч новых выпадкаў заражэння. З сярэдзіны сакавіка ў Камбоджы прыпынены ўсе масавыя мерапрыемствы і рэлігійныя набажэнствы. Кіраўнік "Карытас" гарантуе, што маскі, перададзеныя патрабуючым, будуць найлепшай якасці і даставяцца ў краіну ў адпаведнасці з дзеючымі правіламі.

**ВАТЫКАН.** Пасля больш чым паўтарамесячнага перапынку музеі Ватыкана зноў адкрыты для публікі. Гэта было ўжо трэцяе спыненне з-за пандэміі. "Адкрываем музеі ў поўнай адпаведнасці з правіламі бяспекі, – адзначае дырэктар Барбара Ята. – У нас ёсць сканэр тэмпературы, квіткі трэба браніраваць праз інтэрнэт. Паклапоцімся і пра адпаведны паток наведвальнікаў, беручы пад увагу, што ў нас 7 км выставачных маршрутаў. Я спадзяюся, што гэта было апошняе закрыццё з-за пандэміі". Разам з астатнімі была таксама ўрачыста адкрыта віртуальная выстава, прысвечаная Дантэ, з нагоды 700-годдзя з дня яго смерці, што прыпадае ў гэтым годзе. На ёй прадстаўлены месцы, звязаныя з гэтым найвялікшым паэтам.

**КЕНІЯ.** Кракаўская місіянерка Эва Корбут будуе дарміторый для вучаніц школы-інтэрната "Shalom Home" у Кеніі. Новы будынак павінен служыць 288 дзяўчынкам і іх апекунам. Інвестыцыі неабходныя, бо пасля змены правіл хлопчыкі і дзяўчынкі ўжо не могуць спаць у адным будынку. Для многіх з іх дом "Shalom Home" – адзінае бяспечнае месца, якое могуць назваць домам.

*Падрыхтавана на падставе інтэрнэт-крыніц.*

# КАСЦЁЛ У КАЗЛОВІЧАХ:
## ДА 100-ГОДДЗЯ ВЯРТАННЯ СВЯТЫНІ

*працяг са с. 1*

*Андрэй Грэсь*

Засценак Казловічы, як і суседні маёнтак Верцялішкі, у сярэдзіне XIX стагоддзя былі ва ўладанні дваранiна, афіцэра царскай арміі Аляксандара Свечына. У 1843 годзе яго жонкай Аляксандрай са старажытнага нямецкага роду Біспінгаў быў куплены хутар Казловічы, далучаны да іх вялікага валодання ў Верцялішках. З канца XVIII стагоддзя ў Казловічах існавала невялікая драўляная грэка-каталіцкая царква. З інвентара апісання парафіян казловіцкай царквы за 1824 год вынікае, што да яе належалі 341 вернік з вёсак Табала і Сколабава і невялікая частка са шляхецкіх ваколіц Эйсманты, Аленічы і Казловічы. У захаваных метрыкальных кнігах можна знайсці запісы аб ваколічнай шляхце: Быльчынскіх, Чарняўскіх, Давідовічах, Эйсмантах, Гарбачэўскіх, Камінскіх, Кучынскіх, Мінючыцах, Станкевічах, Струпінскіх, Талочках і інш. Адсюль вынікае, што парафіяне дзяліліся на простых прыгонных сялян і мясцовую шляхту, частка якой яшчэ заставалася ўніяцкай, а часам была рымска-каталіцкай, але працягвала наведваць уніяцкую святыню.

Пасля ліквідацыі уніі ў 1839 годзе новыя праваслаўныя вернікі былі далучаны да прыхода ў Верцялішках, а вернікі рымска-каталіцкага веравызнання – да парафіі ў Азёрах. Былая грэка-каталіцкая царква стала капліцай азёрскай парафіі. Каталічка Аляксандра Біспінг грунтоўна адрамантавала капліцу ў канцы 50-х гадоў XIX стагоддзя.

Пасля паўстання 1863 года капліцу ў Казловічах перадалі праваслаўным. У 1915 годзе гэтыя землі былі заняты немцамі, і ў былой уніяцкай царкве пачалі спраўляць Імшы, а ў 1920 годзе вернікі і мясцовыя ўлады загаварылі аб афіцыйнай рэвіндыкацыі (вяртанні) святыні каталікам. Гэтаму спрыялі і вернікі былой казловіцкай грэка-каталіцкай парафіі, якія склалі найбагацейшую частку ваколічнай шляхты і з якімі вымушаны быў лічыцца азёрскі пробашч кс. Куксевіч, якому спачатку не вельмі падабалася перспектыва выдзялення з Азёр новай парафіі. У 1920 годзе касцёл у Казловічах быў пераасвечаны пад падвойным тытулам – Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Андрэя Баболі, мучаніка. Адзін з бакавых алтароў касцёла прысвечаны пакутніцкай смерці гэтага святога, прызванага за сваю місіянерскую дзейнасць Апосталам Палесся.

Наступным крокам для жыхароў вёсак і ваколіц было атрыманне афіцыйнага дазволу аб адлучэнні ад парафіі ў Азёрах і стварэнні асобнай парафіі ў Казловічах. Кс. Куксевіч, між іншым, абслугоўваў капліцу ў Казловічах да лістапада 1923 года, пакуль не прыслалі новага святара – кс. Станіслава Хадыку.

Згодна з актам аб заснаванні за подпісам арцыбіскупа Віленскага Юрыя Матулевіча ад 5 чэрвеня 1925 года, Казловічы станавіліся парафіяй Гродзенскага дэканата Віленскай архідыяцэзіі і мітраполіі. Да парафіі вярталіся мясцовасці з Азёрскай і гродзенскай пабернардынскай парафій: Казловічы, Галаўнічы, Эйсманты, Заполле, Аленічы, Калабышкі, Дамброва, Рыдзелі, Табала, Баркі, Пундзішкі, Пілюкі, Дворцы, Сколабава, станцыя Аўльс, Ракітна і Верцялішкі. Свае душпастырскія паслугі пробашч кс. Хадыка выконваў у Казловічах да 1932 года, калі ў парафіі было 898 вернікаў, у тым ліку 648 прыступіўшых да споведзі.

Апошнім пробашчам у Казловічах быў кс. Станіслаў Смялоўскі (ад 1948 да 1 снежня 1964 года). Пасля яго смерці камуністычныя ўлады ў 1969 годзе зачынілі касцёл і размясцілі ў ім склад збожжа. Было прынята рашэнне аб разборцы касцёла на дровы, пасля таго, як у ім правалілася падлога ад згружанага люпіну. Але да гэтага не дайшло дзякуючы вернікам. Адраджэнне касцёла пачалося ў 1989 годзе дзякуючы намаганням старшыні парафіяльнага камітэта вернікаў Грыгорыя Абуховіча. 16 мая 1990 года, на парафіяльнае свята св. Андрэя Баболі, адбылася першая св. Імша.


*Парафіяльная святыня ў Казловічах*

З 1990 па 2006 год пробашчам парафіі з'яўляўся кс. канонік Анджэй Садоўскі. Сёння абавязкі пробашча ў Казловічах выконвае кс. Яўген Барысюк.

Да святкавання 100-годдзя вяртання касцёла католікам пачаліся аднаўленчыя работы. Была аднаўлена закрыстыя, усталяваны пластыкавыя вокны (у дапаўненне да старых). Работамі кіраваў старшыня парафіяльнага камітэта Я. Ждончык. У 2020 аднавілі галоўны алтар Маці Божай Чанстахоўскай: ніжняя яго частка была выраблена з дуба столярам І. Ткачом з Азёраў, а верхняя рэстаўравана М. Гаўраш з Гродна. Усё рабілася, каб захаваць гістарычнасць будынка.

# ПАСТАР ВЯЧАСЛАЎ ГАНЧАРЭНКА: "НЕ ТРЭБА АСАБЛІВА ПЕРАЖЫВАЦЬ ЗА БУДАЎНІЦТВА, ВАЖНА ЎБАЧЫЦЬ ЖНІВО"

працяг са с. 1

**Пасля атэістычнага ліхалецця большасць хрысціянскіх супольнасцей прайшлі ці яшчэ праходзяць этап будаўніцтва святынь. З гэтым звязаны даўжэзны спіс праблем і выпрабаванняў. Сёння размаўляем пра гісторыю пратэстанцкай царквы "Новае Жыццё". Пасля 30-ці гадоў дзейнасці яны былі пазбаўлены свайго малітоўнага дома і сталі "царквой без сцен".**

Арцём Ткачук



***– Пастар Вячаслаў, як узнікла Ваша царква? Распавядзіце крышачку пра гісторыю супольнасці?***

– У 90-ыя гады, калі Савецкі Саюз развальіўся, я і мае бацькі ўжо былі веруючымі людзьмі і належалі да Евангельскай Царквы. На той момант мне было 20 гадоў. Мы заўважылі, што людзі сталі цягнуцца да Бога, таму пачалі прапаведаваць, дзяліцца Евангеллем.

Стала прыходзіць шмат людзей. Спачатку мы арандавалі кінатэатры, дамы культуры. А ў 1992 годзе зарэгістравалі ў Мінгарвыканкаме нашу царкву. Веруючыя людзі памятаюць тыя часы – тады ўтваралася шмат цэркваў.

***– І пазней пачалася гісторыя з Вашым малітоўным домам?***

– Як і ўсе нармальныя людзі, мы хацелі атрымаць зямлю пад будаўніцтва. Аднак нам адмаўлялі па розных прычынах. Апошнюю адмову атрымалі ў 2000 годзе: нам сказалі, што да 2010 года зямлі для будаўніцтва царквы не будзе. Тады мы вырашылі набыць закінуты кароўнік.

Супрацоўнічаючы з уладамі, чулі ад іх: "Так, набывайце будынак, а ўсё астатняе будзем вырашаць пазней". У 2002 годзе кароўнік перайшоў ва ўласнасць нашай супольнасці. У мэце набыцця пазначылі: "Пад будаўніцтва культавага будынка". Кароўнік нас, канешне, не цікавіў. Затым пачаўся працэс афармлення дакументаў. Было нават некалькі дазволаў на будаўніцтва там царквы.

Мы спачатку збіраліся на набытым участку ў палатцы. Часам проста на полі, у парку, у лесе. Аднак восенню 2004 года прайшоў ураган, сарваў шмат дахаў у нашым раёне, а палатку парваў на кавалкі. І мы не ведалі, дзе збірацца. Таму ў 2004 годзе было прынята рашэнне з верай увайсці ў той кароўнік.



Там дзе-нідзе не было сцен, дах свяціўся дзірамі, аднак мы за месяц зрабілі рамонт і сталі праводзіць там сходы. Тады нас пачалі штрафаваць, таму што будынак не з'яўляўся культавым. Мы плацілі штрафы, але ўсё роўна збіраліся.

Затым былы мэр Мінска прыняў рашэнне забраць у супольнасці зямлю з пазнейшым выкупам будынка. Крыху пасудзіліся, але нічога не дапамагло – нам далі 10 дзён, каб пакінуць пабудову. У кастрычніку 2006 года мы аб'явілі бестэрміновы пост перад Богам, а перад грамадствам – галадоўку. Усё працягвалася 23 дні, было шмат падтрымкі ад розных людзей і арганізацый. З гэтай нагоды мяне запрасілі ў адміністрацыю Прэзідэнта ды запэўнілі, што кіраўнік краіны ведае пра нас і падтрымлівае. "Вяртайцеся ў прававое поле, ідзіце ў суды, вам усё аддадуць", – казалі нам. Мы спынілі галадоўку і з 2006 па 2009 год хадзілі па судах (было недзе каля 40-ка пасяджэнняў), але ўсё роўна засталіся вінаватымі.

Папярэдняе рашэнне пакінулі ў сіле – зямля не належыць царкве, будынак павінен быць вызвалены.

З 2009 года мы знаходзіліся вось у такім статусе. Нас час ад часу наведвалі, патрабавалі пакінуць тэрыторыю. А ў лютым 2021 года царква была выселена з будынка.

***– І які цяпер статус мае Ваша супольнасць? Не маеце будынка, але статус рэлігійнай арганізацыі застаўся?***

– Так, мы рэлігійная арганізацыя "Царква «Новае Жыццё»", але наш будынак належыць ЖРЭА. Мы вінны дзяржаве 180 тысяч долараў, і калі выплацім гэтую суму, тады – як нам сказалі – Прэзідэнту накіруюць хадатайства, каб нам выдзелілі зямлю. Цяпер мы царква без сцен. 17 мая будзе тры месяцы, як молімся на вуліцы.

***– Як змянілася жыццё супольнасці з практычнага пункту гледжання пасля таго, як Вы сталі "царквой без сцен"?***

– Шмат часу заняў вываз і ўпарадкаванне маёмасці, якую нам дазволілі забраць з будынка. Пазней трэба было змяніць усе праекты і планы. На сёння маем толькі нядзельныя сходы і начныя малітвы, якія праводзім з пятніцы на суботу. Цяпер яны адбываюцца па дамах, у сем'ях. Ёсць 50 сацыяльных служэнняў, стараемся дапамагаць розным людзям. Усё гэта таксама адбываецца па кватэрах, якія называем "штаб-кватэркамі". Розныя пытанні вырашаем анлайн.

Раней мы маглі рабіць штосьці цэнтралізавана, а цяпер, на жаль, толькі вось так. Апошнім разам трэба было зрабіць тэрміновы сход членаў царквы, дык прыйшлося збірацца проста на вуліцы. Канешне, у нас няма камфорту, няма туалетаў, часам бывае дождж і холадна. З дзеткамі многія застаюцца дома. Мы сталі рэальнай царквой без сцен. Але ж нават тое, што мы там знаходзімся – на вуліцы – гэта ўжо па Божай міласці.

***– Вядома, што Царква – гэта людзі. Для Вашай супольнасці гэта гучыць, хіба што, па-асабліваму?***

– Мы зразумелі, што многія рэчы, якія былі ў планах, ужо не можам ажыццяўляць. Гэта настолькі моцна прызямліла людзей, што пачалі думаць: "А ў чым складаецца Божая воля ўвогуле?". Таму што проста па-чалавечы… як вырашыць нашы пытанні, што рабіць?

Аднак мы апынуліся на вуліцы не проста так. Наша супольнасць цяпер стала такім голасам у краіне: голасам для ўрада, для народа, для іншых Цэркваў. Бог жадае, каб праўда гучала мацней. Калі знаходзімся ў сваіх камфортных будынках, гэта не змяняе сітуацыю – людзі ўсё роўна ідуць у пекла і не чуюць Евангелля Езуса Хрыста.

Нават калі паглядзець у працэнтных суадносінах: колькі сапраўдных веруючых, якія крочаць за Езусам, існуе ў нашай краіне? Вельмі невысокі працэнт. А ўсе астатнія людзі? Гэта ж жывыя душы! Царква павінна цяпер абудзіцца і стаць больш смелай для таго, каб выканаць Божую волю. А Божай воляй з'яўляецца, як напісана, каб усе людзі былі збаўлены. Царква павінна даць адказ свету, паказаць адзіную надзею для гэтай зямлі – Езуса Хрыста.

***– То-бок, просьбы да Бога ад Вашай супольнасці цяпер увогуле не пра будынак?***

– Канешне, заўсёды добра, калі Царква мае свой будынак і ўсё развіваецца. Але цяпер у нас іншыя, больш вялікія мары, жаданні. Мы проста бачым наш пакутуючы беларускі народ, яго вялікі боль, мноства пытанняў без адказу, і гэты боль адклікаецца ў нашых сэрцах. Молімся за Беларусь.

Ведаеце, мы засталіся без будынка, але ўсё ж надалей з'яўляемся шчаслівымі людзьмі. Мы даверылі Езусу Хрысту свае жыцці – і праўда нас вызваліла. Людзі пакутуюць, таму што не ведаюць сапраўднай свабоды, ім у сэрцы не хапае Бога. Гэтае разуменне дае столькі сіл, што на многія падзеі глядзіш ужо не так драматычна. Таму мы не проста жадаем, каб наш народ быў шчаслівы, але ведаем, што ёсць яшчэ вечнае жыццё. Заўзеем і за тое, і за гэта.

***– У Каталіцкім Касцёле ў розных кутках Беларусі існуе шмат супольнасцей, якія гадамі будуюць свае святыні, шукаюць сродкі і сілы, якіх не хапае. Што Вы сказалі б вось такім супольнасцям?***

– Езус ужо вызваліў нас ад гэтага: у нас ужо няма сцен *(смяецца – заўв. аўт.)*. Увогуле, гэтая ідэя вуліцы – гэта ж біблейская ідэя. Памятаеце Іерусалімскую Царкву? Спачатку яны збіраліся ў святыні і па дамах, а калі пачаліся ганенні, то ўсе рассеяліся. Засталіся толькі апосталы, якія хадзілі і прапаведавалі Слова.

Я магу сказаць, што будынак – гэта добра. Аднак, калі святыні няма, не трэба зацыклівацца на тым, каб яна абавязкова з'явілася. Прыйдзе час, і Бог можа даць будынак. І не адзін. У любым выпадку, мы так мяркуем і не думаем, каб хутчэй атрымаць свой будынак. Людзей цяпер турбуе іншае – у чым Божая воля? А Божая воля – гэта людзі, гэта жывая святыня, дзе павінен быць Святы Дух. Святыня Святога Духа – гэта мы.

Таму важна выйсці за межы сваіх установак, парадыгм і стэрэатыпаў, якія склаліся за доўгія гады. Каб убачыць, што людзі сёння ў большай патрэбе, што ім неабходна Надзея, ім неабходна Слова, Любоў. Напісана ж: "Шукайце найперш Валадарства Божае", а пазней усё дадасца.

Тое, што ў нейкага святара не хапае грошай на будаўніцтва… Можа, у яго людзей не хапае, якім ён мог бы дапамагчы? Каб гэтыя людзі маглі пазней да яго далучыцца. Таму не думаю, што трэба асабліва перажываць за будаўніцтва. Важна ўбачыць палі, жніво. Час кароткі – няхай галоўнае будзе галоўным!

*Набажэнствы пад адкрытым небам цяпер частка паўсядзённасці вернікаў*

# ЦЯРНІСТЫ ЦІ ПРОСТЫ, АБО ПРА ДОЎГІ ШЛЯХ ДА СВЯТАРСТВА

*працяг са с. 1*

***Працяг цыкла сведчанняў ксяндзоў, якія адкрылі сваё пакліканне пасля разнастайнага жыццёвага досведу.***

**Ангеліна Марцішэўская**




*Падчас урачыстасцей 160-годдзя касцёла Унебаўзяцця НПМ у Жалудку. Кс. Ян другі злева*

## Кс. канонік Ян Рэйшаль: *“У кожным пакліканні крыецца вялікая Божая таямніца”*

Кс. Ян гаваркі і гарласты. Кожны яго зварот да цябе гучыць, як загад, і, гледзячы на парафіянак, якія несвядома выцягваюцца ў струнку побач са сваім пробашчам, напрошваецца выснова, што з яго атрымаўся б неблагі камандзір. Аднак ад лёсу начальніка будучы святар уцёк свядома. Лічыў, што важная прафесія і важная пасада будуць замінаць адданаму прыслужванню ў роднай парафіі.

Хлопчык Ян рос з мамай і бабуляй, веруючымі жанчынамі, якія намагаліся прывіць вызнанне Хрыста і дзіцяці. Угаворваць не прыходзілася: малому падабалася маліцца і ўдзельнічаць у св. Імшах. Атрымалася так, што неўзабаве хлопчык сам пачаў арганізоўваць набажэнствы для мясцовых парафіян. Святара ў вёсцы ў той час не было, і мянушка “ксёндз” прыляпілася да хлопца сама па сабе.

***“Я вельмі люблю марыйны месяц май. Увесну адразу пытаўся ў бабулек, ці будзем сёлета збірацца на маёвыя набажэнствы. У адказ чуў: «Ну, калі знойдзеш, дзе збірацца – будзем». Я бегаў па ўсёй вёсцы, шукаючы самы вялікі дом і падворак, ды спрабаваў дамовіцца з гаспадарамі. «А прыбіраць сам будзеш?», – пыталіся ў мяне на маю прапанову. Я, не раздумваючы, згаджаўся, каб толькі пусцілі ў хату на маёвыя”,*** – узгадвае кс. Ян.

Сапраўды, у часы савецкага атэізму трэба было прыкласці вялікія намаганні, каб мецъ магчымасць практыкаваць веру, а за хрысціянскую пазіцыю, у дадатак, можна было і пацярпець.

***“На школьнай лінейцы мяне заўсёды ставілі ў першы шэраг, побач з хуліганамі, каб прылюдна прысароміць. Толькія мая правіна была выключна ў тым, што хадзіў у касцёл. Прызнаюся, здаралася, што ўрок прагуляю, але толькі каб адспяваць нябожчыка. Бо больш не было каму. За гэта мяне ў школе вельмі крытыкавалі, але ўсё роўна працягваў рабіць тое, што лічыў правільным”,*** – дадае з усмешкай кс. Ян.

Пасля заканчэння 8-мі класаў хлопец думаў пайсці вучыцца на повара, але вырашыў скончыць 9 і 10 класы. Пасля школы разважаў пра тэхнікум, але не адпускаў клопат аб роднай парафіі: гэта патрабавала шмат часу. У выніку юнак пайшоў працаваць паштальёнам.

***“Я скеміў, што на пошце прасцей дагаварыцца, калі мне больш зручна разносіць карэспандэнцыю, а калі выконваць асабістыя абавязкі,*** – адзначае святар. – ***Так і пачаў працаваць. Дастаўляў вяскоўцам газеты, часопісы, пенсію, завозіў іх пасылкі на пошту. Памятаю, зімой снегу было па калена, а я з веласіпедам. Дык мы мяняліся: то я на веласіпедзе, то ён на мне”.***

Затое юнака ўсе пазнавалі. І ведалі, што ён набожны хлопец, які з-за адсутнасці святара што мае сіл клапоціцца пра мясцовых вернікаў. Будучы паштальёнам, Ян ездзіў ад хаты да хаты, і калі хвораму патрэбны быў сакрамант намашчэння, адразу арганізоўваў даезд святара з далёкай парафіі.

***“Неяк накіраваўся за ксяндзом з Росі, а той кажа: «Толькі гэтым разам не сустракайце мяне ўрачыста, а то ўлады ізноў штраф дадуць за тое, што не ў сваёй парафіі дзейнічаю». Аднак на маё разуменне святару належаў адпаведны прыём, таму клопаты са штрафам браў на сябе”,*** – распавядае святар.

Ад ксяндзоў хлопец даведаўся, што існуе магчымасць паступіць у семінарыю ў Рызе. Аднак таго, хто імкнуўся там вучыцца, ставілі на ўлік у мясцовых органах улады, і ён мусіў спачатку дачакацца дазволу ад адказнага па справах рэлігіі. ***“Шансы былі мізэрныя. Мой знаёмы чакаў адабрэння цягам 11 гадоў. Мне яшчэ пашчасціла. Я паехаў у Рыгу праз 5 гадоў пасля падачы заяўкі ў аблвыканкам”,*** – падкрэслівае кс. Ян.

На момант паступлення ў семінарыю Яну было 29 гадоў, а за плячыма ён меў 12-гадовы досвед працы на пошце і амаль пажыццёвы досвед клопату пра патрэбы вернікаў.

***“У семінарыі сабраліся хлопцы з краін усяго СССР: з Беларусі, Украіны, Літвы, Казахстана, Грузіі, Эстоніі… Нас было крыху больш за 100 чалавек. І такія былі часы, што амаль кожны меў пэўнае «мінулае». Хто ў калгасе працаваў, хто на заводзе, хто ўніверсітэт скончыў. Разам мы разбудоўвалі семінарыю – усё ўручную. А вучыцца часам было вельмі складана, аднак калі ты на сваім шляху – няма нічога немагчымага”,*** – дзеліцца святар.

Разважаючы пра пакліканне, кс. Ян упэўнены, што тут нельга паддавацца ніякаму ўплыву і выключна самастойна прымаць рашэнне. Таксама варта памятаць, што Божае бласлаўленне на адпаведны шлях не выключае таго, што ён будзе напоўнены цяжкасцямі.

***“У дзень, калі атрымаў святарскае пасвячэнне, да мяне пасля св. Імшы падышла жанчына і, нізка пакланіўшыся, працягнула вялізны букет кветак. «Вось Вам ружы, ойча, – сказала яна, – але памятайце, што на іх шмат калючак». Цікава, што ні датуль, ні пасля я не бачыў гэтую верніцу. Аднак яе поўныя праўды словы выдатна адлюстроўваюць рэалізацыю чалавека ў яго пакліканні”,*** – падсумоўвае кс. Ян.

Пасля пасвячэння святара адразу накіравалі апекавацца трыма парафіямі: Скрыбаўцамі, Моцевічамі і Жалудком. У апошняй служыць дагэтуль.

***“У Моцевічах мы маліліся ў будынку былога клуба і прасілі ўлады, каб аддалі нам яго пад капліцу. Доўга спрачаліся. А пасля там раптам здарыўся пажар. І акурат у гэты дзень ні ў кога не працаваў тэлефон, каб выклікаць пажарных. Дзякуй Богу, будынак ацалеў, дашчэнту быў знішчаны толькі дах. Мы яго адбудавалі. Сосны спецыяльна бралі з могілак, каб якая з іх не зламалася ад ветру і не зруйнавала надмагіллі. На пілараме нам адмовіліся дапамагчы, спраўляліся з тоўстым дрэвам ізноў самастойна. Аднак высілкі не былі дарэмныя: капліца ў гонар Маці Божай Чанстахоўскай у Моцевічах дагэтуль”,*** – адзначае святар.

Прыемнымі, але ўсё ж клопатамі поўніцца жыццё кс. Яна. І ў віхуры турбот пра давераныя яму парафіі святар не забыўся пра родную вёску, дзе калісьці заўзята дбаў пра вернікаў і адкрываў сваё пакліканне. У Мештунах па цэнтру вёскі кс. Ян усталяваў каплічку, каб мясцовы люд – з большага, старыя – не пераадольваў 10 км да бліжэйшай святыні, як раней, а мог збірацца ў святы на месцы.

# РОЛЯ МАРЫІ Ў ЖЫЦЦІ ХРЫСЦІЯНІНА

**Кс. Аляксандр Сямінскі**

Упаўнаце вечнага Божага плана збаўлення, які ахоплівае ўсіх людзей, асаблівае месца займае Марыя як Маці Хрыста, з якім Айцец спрадвеку звязаў справу збаўлення. У таямніцы Хрыста Яна прысутнічае “яшчэ да стварэння свету” як Тая, якую Айцец абраў у якасці Маці свайму Сыну ва Уцелаўленні. Марыя – “поўная ласкі” – першая сярод пакорных і ўбогіх Пана, якія з даверам чакаюць і атрымліваюць ад Яго збаўленне. Яе абранне і месца ў таямніцы Хрыста цалкам унікальнае і непаўторнае. Даючы ў парадку зямнога нараджэння жыццё Езусу, Божаму Сыну, як Маці Яна атрымлівае годнасць Божага мацярынства (параўн. св. Ян Павел II, “Redemtoris Mater” 7–10).

Як Маці Хрыста Марыя асаблівым чынам звязана з Касцёлам, “які Пан устанавіў як сваё цела” (ІІ Ватыканскі Сабор, “Lumen Gentium” 52). Бо Езус Хрыстус сваёй адкупленчай смерцю перамагае зло граху і смерці ля самага кораня. Звяртаючыся да Маці з вышыні крыжа, Ён гаворыць: “Жанчына, вось сын твой” (Ян 19, 26). Гэтыя словы сведчаць аб тым, што мацярынства Багародзіцы знаходзіць свой “новы” працяг у Касцёле і праз Касцёл, быццам бы сімвалічна прысутны і прадстаўлены ў вобразе апостала Яна. Згодна з вечным планам Провіду, Божае мацярынства Марыі павінна быць удзелена Касцёлу і з’яўляецца адлюстраваннем ды працягам Яе мацярынства адносна Божага Сына (параўн. св. Ян Павел II, “Redemtoris Mater” 5, 24).

“Хрыстос, паміраючы на крыжы, прызнаў Маці і любімага вучня, які стаяў побач з Ёй, за пачаткі новай сям’і, якую Ён заснаваў у свеце, зародак Касцёла і новага чалавецтва” (Бенедыкт XVI, гамілія, прамоўленая ў Эфесе, 29 лістапада 2006 г.). Традыцыя называе Марыю “новай Евай” і сапраўднай “Маці жывых”. Яна стала нашай Маці ў парадку ласкі. “Мацярынства Марыі ў эканоміі ласкі працягваецца няспынна, пачынаючы ад акту згоды, якую пры звеставанні Яна верна выказала і якую без вагання захавала пад крыжам, да вечнага здзяйснення збаўлення ўсіх выбраных. Узятая ў неба, Яна не спыніла гэтае збаўчае дзеянне, але праз сваё разнастайнае заступніцтва стала выпрошваць нам дары вечнага збаўлення” (ІІ Ватыканскі Сабор, “Lumen Gentium” 62).

Маці займае асаблівае месца ў жыцці кожнага чалавека. Даючы жанчыне дар мацярынства, Бог забяспечыў ёй усё неабходнае для гэтай ролі як у фізічным, так і ў духоўным плане. Яна тая, хто ў любові носіць дзіця ў сваім улонні, нараджае яго ў пакутах і клапатліва выхоўвае, пакуль яно не вырасце да самастойнасці. Яна вучыць яго маліцца, паважаць жыццё, навучае сэнсу жыцця і існаванню ў гэтым свеце, рэлігійным практыкам, малітве да Бога. Маці заўсёды абараняе дзіця. Гэтая абарона таксама заключаецца ў закліку быць пільным: асцерагацца махлярства і падману зла. Маці – пастаянны арыенцір для свайго дзіцяці не толькі ў часе ўзрастання, але і ў маладосці, і ў дарослым узросце. Яна часта з’яўляецца ўзорам паводзін, і неаднойчы, нават несвядома, дзіця пераймае яе



жыццёвыя погляды. Яна з’яўляецца той асобай, да якой чалавек пастаянна вяртаецца ў сваіх думках, словах і ўчынках, асабліва ў цяжкіх жыццёвых сітуацыях і асабліва ў гадзіну сваёй смерці.

Клопат пра жыццё і развіццё чалавека – гэта асноўнае пакліканне жанчыны. Як “поўная ласкі” Марыя выконвае гэтае пакліканне ў духоўным мацярынстве. Паколькі Багародзіца цалкам жыла верай, мы называем Яе “Маці вернікаў”. Св. Ансельм сказаў, што “Марыя, з таго моманту, як прамовіла «fiat», пачала насіць усіх нас у сваім улонні”. І Яна пакутавала разам са сваім Сынам, калі “з боку Хрыста, які спачыў на крыжы, нарадзіўся цудоўны сакрамант усяго Касцёла” (ІІ Ватыканскі Сабор, “Sacrosanctum concilium” 5). Бласлаўлёная між жанчынамі дае прыклад веры ў паслухмянасці Божаму слову, Яна з’яўляецца ўзорам Касцёла, які трывае ў малітве, знакам суцяшэння і непахіснай надзеі. Мацярынства Марыі выяўляецца ў клопаце пра людзей у іх патрэбах і нястачах. Дзякуючы Яе заступніцтву мы маем лягчэйшы доступ да крыніцы ласкаў, якія выплываюць са збаўчай мукі, смерці і ўваскрасення Яе Сына, Езуса Хрыста. Найсвяцейшая Панна ведае нашы патрэбы і ахвотна прыходзіць на дапамогу тым, хто аддаецца Яе абароне, і ніколі не пакідае тых, хто даверыўся Яе мацярынскай апецы. Да Марыі як Маці мы кожны дзень звяртаемся ў сваіх малітвах: “Маліся за нас, грэшных, цяпер і ў хвіліну нашай смерці”.

“Вось Маці твая” (Ян 19, 27a), – сказаў Збаўца, паміраючы на крыжы, свайму любімаму вучню. Гэта Яго запавет, накіраваны праз час і прастору кожнаму, хто адказаў верай на заклік Яго любові. Езус дае нам сваю Маці. Гэта вялікі дар і заданне. З нашага боку патрэбны акт прыняцця Яе, як гэта зрабіў св. Ян: “І з гэтага часу вучань узяў Яе да сябе” (Ян 19, 27b). Гэта запрашэнне ўступіць у блізкія, даверлівыя і поўныя любові адносіны з Марыяй як Маці. Зямная маці – самы блізкі чалавек у жыцці чалавека. З Нябеснай жа мы можам увайсці ў яшчэ больш цесныя адносіны. Бо калі бярэм Яе да сябе, калі маем Яе побач у сваім жыцці, вучымся ад Яе верыць, любіць і цярпець – проста вучымся ад Яе выконваць Божую волю. А Яна, у сваю чаргу, тады з’яўляецца нашай Заступніцай, Пасрэдніцай і Суцяшальніцай. Таму давайце ўсклікнем разам са св. Янам Паўлам II “Totus Tuus”, я ўвесь Твой, Марыя, мая Маці.

# ВОЗЬМЕМ БОГА НА КАНІКУЛЫ!

**Вялікімі крокамі набліжаюцца заслужаныя канікулы. Хвіліна вольнага часу, каб набраць дыхання і адпачыць ад штодзённых спраў і клопатаў, вучобы і экзаменаў, працы і мітусні, прыдасца кожнаму, бо кожны мае права на перадышку.**

*Кс. Юрый Марціновіч*



*“Канікулы з Богам” у Смаргоні, 2019 г.*

У канцы мая школьны званок абвесціць канікулы. І для дзяцей пачнецца час без школы, вучобы, кніг, хатніх заданняў і нашэння кожную раніцу цяжкага заплечніка. Напэўна, любое дзіця пагодзіцца з тым, што гэтыя амаль 90 дзён без вучобы – верагодна, ідэя Пана Бога, які добра так сплanаваў, што пасля цэлага года намаганняў ім належыць адпачынак. Тады лёгка цытаваць словы Езуса з Евангелля паводле св. Марка: “Пайдзіце і крыху адпачніце” (параўн. Мк 6, 31).

### ЧАС ДЛЯ БОГА

Пасля высілкаў евангелізацыі апосталы вярнуліся да Езуса і расказалі пра свае дасягненні. Няглядзячы на энтузіязм, яны, мабыць, выглядалі стомленымі, бо Езус адпраўляе іх узнавіць сілы. Калі дзіця вяртаецца са школы ў апошні дзень, нясе ў руках плён сваёй працы за год і ведае, што яго чакае заслужаны адпачынак.

Выбух шчасця напаўняе чалавека і нясе ў розныя месцы. У нашым асяроддзі часцей за ўсё выязджаюць да бабуль і дзядуль у вёску альбо на дачу, а калі-нікалі і ў далёкія цёплыя краіны, хаця ў час пандэміі гэта не заўсёды магчыма. У нас усіх розныя ідэі для адпачынку. Канікулы – гэта такая цудоўная пара, якая мае ўсяго адзін недахоп – яна калісьці заканчваецца. Тады мы вяртаемся да свайго паўсядзённага жыцця, у школу, універсітэт, на працу, да розных іншых заняткаў. Думаю, варта ўжо ў самым пачатку канікул усвядоміць, што гэта, усё ж, не час без Бога.

**Узяць Бога з сабой на канікулы – гэта, напэўна, значыць размаўляць з Ім кожны дзень у малітве і дзякаваць за сонца, за прыгажосць пейзажа, які адкрываем, за дабрыню людзей, якую адчуваем, і за шматлікія хвіліны радасці, якія нас чакаюць!**

На канікулах не зачыняюцца святыні, не прыпыняецца цэлебрацыя сакрамантаў. Толькі ад кожнага з нас залежыць, ці будуць канікулы напоўнены Богам. Мы так часта паўтараем, што не маем часу на малітву, на чытанне Святога Пісання, на Эўхарыстыю – нават у нядзелю, – таму што ў нас так шмат працы, абавязкаў і клопатаў. Наперадзе канікулы – перыяд больш вольны, менш напружаны. Але ці будзе гэта таксама час для Бога і з Богам? Не пакідайма Пана падчас канікул. Наадварот, давайце яшчэ больш да Яго далучымся. Знойдзем момант для часцейшай Эўхарыстыі, малітвы і чытання Божага слова.

### ЧАС ПАДЗЯКІ

У гэтыя дні асаблівым чынам праслаўляйма Бога ў прыгажосці створанага свету. Дзякуйма за шматлікія ласкі, якія Ён нястомна нам удзяляе. Давайце паглядзім вакол сябе і ўбачым цудоўныя творы Бога. Мы можам адпачываць разам з Панам і побач з Ім. Гэта ўмацуе нас духоўна.

Канікулы і адпачынак – таксама дар Пана. Дык няхай яны будуць перажыты і выкарыстаны як дар, за які належыць дзякаваць. Дзякуючы, мы становімся лепшымі, больш радаснымі, менш прэтэнцыёзнымі. Часам, напэўна, нам так цяжка заўважыць Божы дар. Час канікул можа стаць выдатнай нагодай, каб зразумець, што ўсё з’яўляецца ласкай і за кожную з іх трэба дзякаваць.

Мы адпраўляемся ў розныя прыгожыя куткі нашай краіны, наведваем разнастайныя месцы, сустракаемся са шматлікімі людзьмі. Аднак, любуючыся гэтай прыгажосцю, ці памятаем пра Творцу ўсяго? Магчыма, нам трэба развіць пэўную духоўную чуласць, творчую свядомасць. Зямля дадзена нам ад Пана. Менавіта для нас Ён стварыў гэты цудоўны свет. А мы парой паводзім сябе так, быццам усё нам належыць. Давайце вучыцца ўдзячнасці!

**Падчас канікул трэба памятаць пра споведзь, першыя пятніцы месяца, хвіліны адарацыі і чытанне Святога Пісання.**

### ЧАС СУСТРЭЧЫ

Бог не навязваецца, а цярпліва чакае нашага кроку. Ён нястомна ёсць і чувае над усімі людзьмі. Так шмат хоча нам даць. Так моцна прагне, каб мы былі шчаслівыя. Толькі Ён ведае, чаго патрабуем для шчасця, і менавіта гэтым хоча нас адарыць. А мы? Прагнем жыць па-свойму: не пытацца ў Пана пра Яго волю, а, магчыма, прасіць, каб гэта Ён прыстасаваўся да нашай.

Падчас канікул не забывайма, што Бог чакае нас! Зробім крок Яму насустрач – няхай нашы касцёлы не пустуюць. Езус не хоча быць адзін закрытым у табернаклі. Ён прагне, каб чалавек прыйшоў, пагаварыў з Ім, пабыў у Яго прысутнасці. Хоча, каб Яго Слова было жывым у нашым жыцці. Дык давайце звернемся да яго і будзем чытаць, слухаць і разважаць. І не будзем казаць, што ў нас няма часу.

Хай жа мы зможам у кожным дні надыходзячых канікул убачыць скарб, які Бог даў нам. Стараймася не знішчыць гэты скарб і не забыцца пра Бога, які кожны дзень хоча быць з намі!

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

*Кс. Юрый Марціновіч*

***16 мая – VII Велікодная нядзеля***
***Ян 17, 11b–19***

Езус узняў вочы свае да неба і маліўся такімі словамі: “Ойча святы, захавай іх у імені Тваім, якое Ты даў Мне, каб яны былі адно, як і Мы. Калі Я быў з імі, Я захоўваў іх у імені Тваім, якое Ты даў Мне. Я збярог, і ніхто з іх не загінуў, апроч сына пагібелі, каб збылося Пісанне. А цяпер іду да Цябе і кажу гэта ў свеце, каб яны мелі ў сабе поўную Маю радасць. Я даў ім слова Тваё, і свет узненавідзеў іх, бо яны не са свету, як і Я не са свету. Не прашу, каб Ты ўзяў іх са свету, але каб захаваў іх ад злога. Яны не са свету, як і Я не са свету. Асвяці іх у праўдзе. Слова Тваё – гэта праўда. Як Ты паслаў Мяне ў свет, так і Я паслаў іх у свет. І за іх Я пасвячаю сябе, каб і яны былі асвечаныя ў праўдзе”.

### Уступіць у адносіны з Богам

*У кожным пакаленні – пачынаючы ад апосталаў – Езус вучыць нас таямніцы яднання чалавека з Богам. Асноўным яе вымярэннем з’яўляецца ўсведамленне прысутнасці, блізкасці і любові Бога, які з’яўляецца Айцом. Адказ чалавека павінен быць выражаны ў даверлівым падпарадкаванні гэтай любові.*

*Праз сваё жыццё Езус вучыць нас разумець і рэалізаваць план Айца, каб “ніхто не загінуў, апроч сына пагібелі”. Як Вечны, Адзінародны Сын, уваходзячы ў глыбіню Божай любові, Езус усё аддае Айцу і ўсё накіроўвае да Айца.*

*Толькі ісціна, якою ёсць Божае слова, можа нас асвяціць. Пазнаць праўду ў Біблії азначае ўступіць у жывыя адносіны з Богам, які з’яўляецца непахіснай абаронай, на якога можна абаперціся, у якім можна будаваць сваю надзею. Таму трэба ісці за Хрыстом, трэба далучыцца да Яго, нельга пакідаць Яго да смерці.*

*Пане Езу Хрысце, захавай мяне ў еднасці з Табой, дапамагай трываць у радасці і ў праўдзе!*

***23 мая – Нядзеля Спаслання Святога Духа***
***Ян 7, 37–39***

У апошні вялікі дзень свята Езус стаў і, заклікаючы, сказаў: “Хто прагне, няхай прыйдзе да Мяне і п’е. Хто верыць ў Мяне, у таго, як сказана ў Пісанні, з улоння пацякуць рэкі вады жывой”.

Гэта сказаў Ён пра Духа, якога павінны былі прыняць тыя, хто паверыў у Яго: бо яшчэ не было Духа Святога, таму што Езус яшчэ не ўславіўся.

### Адкрыцца на прыняцце дароў

*Кожны з нас добра ведае пачуццё радасці ад атрымання падарунка ад сябра (напр., на імяніны ці дзень нараджэння), а таксама радасць ад адорвання кагосьці блізкага. У такой сітуацыі матэрыяльны памер падарунка не з’яўляецца самым важным (гэта можа быць, напр., ружа ці сувенір, прывезены з падарожжа). Значна важнейшы сам факт адорвання іншага чалавека, а таксама зычлівасць і любоў, якія суправаджаюць гэты ўчынак.*

*Урачыстасць Спаслання Святога Духа акрэслівалася ў літургічнай традыцыі Касцёла як “свята Дару дароў”. Святы Дух – гэта Асоба-Дар. Удзяляючы Яго ўсяму Касцёлу, у тым ліку і нам, Бог Айцец нанова адкрывае сваё сэрца, аднаўляе сваю любоў да нас і пацвярджае, што мы з’яўляемся Яго прыёмнымі сынамі ў Сыне. Перадаючы Яго нам, уваскрослы Хрыстос, які носіць на сваім целе сляды збаўчай мукі, вучыць нас падпарадкоўвацца Айцу, быць паслухмянымі і пакорлівымі Яму ў кожны момант жыцця.*

*Адкрыемся для любові Айца, якая прыносіць нам найвялікшы Дар, і станем перад Ім у сыноўскай любові і паслухмянасці, якой нас вучыць Хрыстос, каб магчы лепш выконваць Божую волю і моцай Святога Духа сведчыць, што Езус жыве і што Ён – наша “дарога, і праўда, і жыццё” (Ян 14, 6).*

*Пане Езу Хрысце, учыні, каб прынятыя дары Святога Духа дапамагалі мне лепш выконваць Тваю святую волю!*

ад шчырага сэрца

## ЯГО ЭКСЦЭЛЕНЦЫІ КСЯНДЗУ БІСКУПУ АЛЯКСАНДРУ КАШКЕВІЧУ

*з нагоды 30-ай гадавіны біскупскай сакры жадаем здароўя, шчасця, нязгаснага запалу веры і плённай паслугі на ніве Пана. Няхай міласэрны Бог і Святы Дух дадаюць Вам сіл і натхнення, а Маці Божая штодзённа адорвае пяшчотай і дабрынёй свайго сэрца. Жадаем рэалізацыі ўсіх планаў і зычлівых людзей на пастырскім шляху.*

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

## ЯГО ЭКСЦЭЛЕНЦЫІ КСЯНДЗУ БІСКУПУ АЛЯКСАНДРУ КАШКЕВІЧУ

*з нагоды 30-ай гадавіны прыняцця біскупскай сакры прагнем скласці самыя сардэчныя пажаданні. Няхай Божая міласэрнасць,ззяючая любоўю і верай, заўсёды спадарожнічае Вам на душпастырскім шляху, Святы Дух удзяляе свае дары, усмешка ніколі не сыходзіць з твару, а Божая радасць напаўняе кожны дзень пастырскай паслугі. Жадаем бясконцых сіл, шмат зычлівых сэрцаў побач, гатовых прыйсці на дапамогу, мноства Божых ласкаў і апекі Найсвяцейшай Маці. Будзьце добрым пастырам па прыкладзе Хрыста.*

*Члены апостальства "Маргарытка" Гродзенскай дыяцэзіі*

## ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АРТУРУ МАЛАФЕЮ

*з нагоды 15-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў шчыра дзякуем за тое, што нясеце нам радасць Евангелля. Няхай усемагутны Бог і Маці Божая заўсёды трымаюць Вас у сваёй апецы, Святы Дух натхняе на добрыя і годныя справы, Хрыстос з любові прытуляе да свайго сэрца, а мы падтрымаем у малітве. Жадаем, каб святы заступнік моцна трымаў Вас за руку і дапамагаў у розных складаных жыццёвых сітуацыях, а таксама каб было шмат прычын усміхацца, таму што Ваша ўсмешка робіць гэты свет лепшым.*

*З малітвай і павагай парафіяне з Гродна-Аўгустоўка*

## ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ РЭДАКТАРУ ЮРЫЮ МАРЦІНОВІЧУ

*з нагоды дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем шчырых і добразычлівых людзей на жыццёвым шляху, радасці, моцы, рэалізацыі ўсіх намераў і шчодрага плёну ў служэнні Богу і людзям. Няхай добры Бог адорвае Вас моцным здароўем, цярплівасцю, супакоем і ўсімі патрэбнымі ласкамі, Маці Божая ахінае апекай і любоўю, а Святы Дух нястомна спасылае свае дары і дапамагае ў душпастырскім служэнні.*

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

## ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АЛЯКСАНДРУ ЛЕБЯДЗЕВІЧУ

*з нагоды імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: шчодрых Божых ласкаў, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, здароўя на доўгія гады, аптымізму, блакітнага неба і яснага сонца над галавой. Дзякуем за адданае служэнне Богу і людзям, за добрую ўсмешку і цёплае сэрца. Мы шчаслівыя, што маем такога пробашча!*

*Касцёльны камітэт, першакамунійныя дзеці з бацькамі і парафіяне з Жамыслаўля*

## ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ЮРЫЮ МАРЦІНОВІЧУ

*з нагоды дня нараджэння перасылам сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, мудрасці і цярплівасці. Няхай Ваша сэрца заўсёды будзе напоўнена Божай радасцю, святлом і ласкай. Няхай добры Бог адорвае благаслаўленнем, Езус Хрыстус ахоўвае ад бед, а Найсвяцейшая Маці і святы заступнік нястомна трымаюць Вас у сваёй апецы.*

*Вернікі капліцы Вінцукі*

## ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АЛЯКСАНДРУ РУДЗЕВІЧУ

*з нагоды імянін жадаем шчодрых Божых ласкаў, моцнага здароўя, цярплівасці і стойкасці на Божай ніве. Няхай Бог Цябе благаслаўляе і аберагае, а Найсвяцейшая Маці мае ў сваёй апецы. Памятаем пра Цябе ў малітвах!*

*Мама Антаніна, брат Дзмітрый і брат Генрых з сям'ёй*

## ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ПАЎЛУ УРБАНУ

*з нагоды дня нараджэння ад шчырага сэрца жадаем моцнага здароўя, мудрасці, цярплівасці, добрых і зычлівых людзей на жыццёвым шляху. Няхай Бог нястомна благаслаўляе, Святы Дух шчодра ўдзяляе свае дары, а Маці Божая заўсёды будзе побач і дапамагае ў Вашай паслузе.*

*Касцёльны Камітэт і парафіяне касцёла Маці Божай Нястомнай Дапамогі ў Парэччы*

## ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ДЗМІТРЫЮ УРБАНОВІЧУ

*з нагоды дня нараджэння і 20-ай гадавіны святарскага служэння перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай Ваш святарскі шлях будзе шчаслівы і благаслаўлёны, а побач будуць толькі добразычлівыя людзі. Няхай супакой і радасць паселяцца ў Вашым сэрцы, а ўсмешка ніколі не сыходзіць з твару. Жадаем шмат здароўя, сіл і стойкасці, а таксама моцнай веры, надзеі і любові.*

*Вернікі парафіі Святой Тройцы ў Іўчолне*

## ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ЮРЫЮ МАРЦІНОВІЧУ

*з нагоды дня нараджэння складаем самыя сардэчныя віншаванні, спалучаныя з малітвай. Жадаем Божага благаслаўлення на кожны дзень святарскай паслугі, дароў Святога Духа, радасці, аптымізму, моцнага здароўя. Няхай Ваша сэрца напаўняюць любоў, надзея і супакой. За ўсё дабро, за скарб веры, плён працы, разважлівасць, чулае сэрца і лагодную ўсмешку мы вельмі Вам удзячны. Дзякуем за тое, што Вы з намі і для нас!*

*Вернікі парафіі бл. Мар'яны Бярнацкай у Гродне*

***Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.***

Каталіцкія СМІ Беларусі




**інтэрнэт-партал Касцёла ў Беларусі**

У Багданаве (Валожынскі раён), месцы нараджэння мастака Фердынанда Рушчыца, побач з касцёлам св. Міхала Арханёла яму быў адкрыты помнік. Аўтарам бюста з'яўляецца скульптар Валяр'ян Янушкевіч, чые працы можна ўбачыць у многіх беларускіх касцёлах.

Праект па ўшанаванні памяці славутага беларускага мастака, чый 150-гадовы юбілей адзначаўся летась, быў фінансаваны Пасольствам Рэспублікі Польшча пры падтрымцы Польскага інстытута ў Мінску.

Адным з найбольш вядомых твораў Фердынанда Рушчыца з'яўляецца палатно "Нядзеля. Ля касцёла", што захоўваецца ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь. На карціне адлюстравана нядзельнае набажэнства ў старым драўляным касцёле ў Багданаве, які згарэў у гады ІІ Сусветнай вайны.




**газета Віцебскай дыяцэзіі**

Газеце Віцебскай дыяцэзіі "Каталіцкі веснік" спаўняецца 10 гадоў! З гэтай нагоды рэдакцыя выдання дзеліцца цікавымі фактамі. Першы нумар газеты захоўваецца ў Ватыкане. "Каталіцкі Веснік" – адзінае каталіцкае выданне, якое можна выпісаць праз Белпошту. За 10 гадоў працы колькасць супрацоўнікаў рэдакцыі вырасла з 6 да 11 чалавек. Самыя далёкія пункты, адкуль рабіліся рэпартажы, – гэта Партугалія, Італія, Украіна, Польшча, Латвія і Эстонія. Калектыў рэдакцыі "Каталіцкага Весніка" ўзнагароджаны Дыпломам за 1-ае месца ў аглядзе-конкурсе па ўжыванні беларускай мовы сярод рэгіянальнага друку ў 2014 і 2019 гадах. У рэдакцыю за 10 гадоў працы даслана каля 4 тысяч ахвяраванняў і 804 інтэнцыі ў газетную закрыстыю.




**беларуская рэдакцыя**

Папа абвясціў аб кананізацыі 7-мі благаслаўлёных. Гэта Лазар Пілаі, вядомы як Дэвасахаям, індыйскі свецкі вернік, мучанік, забіты з нянавісці да веры; французскі святар Сэзар дэ Бюс, заснавальнік Кангрэгацыі Айцоў Хрысціянскай Дактрыны; Луіджы Марыя Палацола, заснавальнік манаскай супольнасці Сясцёр Бедных; італьянскі святар Джусціна Марыя Русаліла, заснавальнік Таварыства Боскіх Пакліканняў і Кангрэгацыі Сясцёр Боскіх Пакліканняў; італьянская манахіня Марыя Франчэска ад Езуса (Анна Марыя Рубата), заснавальніца Кангрэгацыі Сясцёр Тэрцыярак Капуцынак з Лаана; Марыя Дамэніка Мантавані, сузаснавальніца і першая генеральная настаяцельніца Інстытута Малых Сясцёр Святой Сям'і; а таксама вядомы французскі святар Шарль дэ Фуко.




**інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі**

1 мая, ва ўспамін св. Юзафа, рамесніка, у парафіі Святой Сям'і ў Лідзе адбыўся дзень засяроджання і малітвы праз заступніцтва Апекуна Святой Сям'і. Набажэнства адбылося з нагоды таго, што ў Каталіцкім Касцёле праходзіць Год св. Юзафа, а па распараджэнні біскупа Гродзенскага Аляксандра Кашкевіча касцёл Святой Сям'і ў Лідзе з'яўляецца юбілейнай святыняй, у якой можна атрымаць адпусты.

Асаблівай падзеяй для парафіяльнай супольнасці стала прыбыццё фігуры Маці Божай Каралевы Паратунку з Мілана. Такім чынам вернікі мелі магчымасць скласці свае турботы і каля ног Марыі.

**Актуальныя навіны, фота, відэа. Даведайся больш пра жыццё Каталіцкага Касцёла на Гродзеншчыне!**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;**
заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія;** год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** тэл. **(80152) 61-05-37; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.** Тэхнічны рэдактар – Юрый Лавыш.
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»**, ЛП 02330/39 ад 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 1782; тыраж 4700; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты.
Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная.